„Беларускі настаўнік" гэта адукацыйны дапаможнік перш-наперш настаўнікам беларускай мовы ў польскіх школах. Але не толькі. Хочам, каб наш часопіс дапамагаў усім зацікаўленым беларускай адукацыяй, напрыклад, гісторыкам і географам, якія ўводзяць на ўроках элементы навучання гісторыі і геаграфіі Беларусі, але таксама Падляшша. Каб пашыраў сярод настаўнікаў веды пра Беларусь і азнаямляў з новымі метадамі навучання. Хочам, каб гэта была таксама настаўніцкая платформа абмену меркаваннямі, праблемамі, досведам.

Часопіс задуманы Аб'яднаннем у карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА. Яго ідэя ўзнікла ў час працы над „Стратэгіяй развіцця асветы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы".

„Беларускі настаўнік" выходзіць раз на паўгода. Запрашаем да супрацоўніцтва. Калі маеце цікавыя сцэнарыі ўрокаў або пазаўрочных заняткаў, урачыстых лінеек, школьных мерапрыемстваў, экскурсій, тэатральных спектакляў, калі ў Вас ёсць цікавыя гульні і дыдактычныя матэрыялы, прапануйце іх, з дапамогай нашага часопіса, іншым. Калі ў Вас узніклі пытанні, звязаныя з навучаннем беларускай мове, пішыце.

Матэрыялы і пытанні дасылайце на наш электронны адрас **ab_ba@poczta.onet.eu**. Часопіс „Беларускі настаўнік" даступны ў Вашых школах і на нашым сайце **www.ab-ba.com.pl**.

# Ад рэдактара

Апісанне сваімі словамі свету вакол нас, разуменне гістарычных працэсаў, якія ў ім адбываюцца, адчуванне духоўнай сувязі з продкамі — гэта ўмова захавання нашай культурнай спадчыны і тоеснасці. Арлянскія вучні, разам са сваімі настаўнікамі, ужо больш за дзесяць гадоў запісваюць мясцовыя назвы палёў, лугоў, урочышчаў ды іншых аб'ектаў на тэрыторыі гміны, наносяць іх на карты і такім чынам зберагаюць важную частку лакальнай традыцыі. Як сказаў мне іх апякун Дарыюш Гарадэцкі, летась ад старэйшых жыхароў вёскі Кошкі пачулі яны сем назваў паасобных участкаў зямлі, якія цяпер аб'яднала адна: IKEA. Такім чынам у Арлянскай гміне з'явіўся новы тапонім, які прыкрыў сабой сем традыцыйных, што стагоддзямі прыдумвалі нашы продкі. Больш пра гэта піша ў нумары другая апякунка ўнікальнага праекта „Захоўваем нашы тапонімы" Альжбета Цюлькевіч.

Лён не толькі апранаў і карміў нашых продкаў, але і ўпрыгожваў іх жыццё, і быў невычэрпнай крыніцай фальклору і паэзіі. Анна Кандрацюк прапануе сцэнарый урока пра беларускае золата на аснове літаратурных твораў. А Тамара Карнілюк — дадатковыя заняткі з выкарыстаннем іголкі і ніткі, якія не толькі развіваюць мануальныя магчымасці дзяцей, але і азнаямляюць іх з узорамі ды тэхнікамі шыцця, характэрнымі беларускай меншасці ў Польшчы. Тамара Карнілюк заахвочвае таксама пільней узірацца пад ногі і больш увагі прысвячаць раслінам вакол нас. І вучыць гэтаму дзяцей.

Жывой ніццю, якая спалучае нас з мінулым з'яўляюцца старэйшыя людзі. Настаўнікі-пенсіянеры шмат чаго могуць расказаць, многаму нас навучыць. Лена Сельвясюк пачала працу ў школе ў Красным Сяле ў 1954 годзе. Было ёй усяго сямнаццаць гадоў. Як склалася яе прафесійнае і асабістае жыццё на фоне гісторыі Беласточчыны другой паловы мінулага стагоддзя — прачытаеце ў маім з ёю інтэрв'ю „Я ў пяць гадоў сказала, што буду настаўніцай".

Навучанне мове не можа абысціся без звычайных урокаў, на якіх вучні пазнаюць граматыку, арфаграфію, скланяюць назоўнікі ды спрагаюць дзеясловы. А настаўнікам прыходзіцца гэта ацэньваць. Некалькі прыкладаў, як гэта рабіць, знойдзеце ў аўтарскіх тэкстах Яанны Марко.

Паколькі гэты нумар трапіць у Вашы рукі ў калядны час, то яшчэ можна будзе ў класе паспяваць калядкі, не толькі нашы, але і іншых народаў. Такія заняткі, якія спалучаюць любоў да традыцыі і адкрытасць на вонкавы свет, пашану для іншых, пратэсціравала са сваімі вучнямі Аліна Ваўранюк.

Ад імя ўсяго калектыву „Беларускага настаўніка" жадаю Вам радасных свят Раства Хрыстовага і шчаслівага Новага 2019 года!

**Мікола ВАЎРАНЮК**

# Я ў пяць гадоў сказала, што буду настаўніцай



Мікола ВАЎРАНЮК



**Лена Сельвясюк**
(з дому Валкавыцкая) — з першага пасляваеннага пакалення беларускай інтэлігенцыі на Беласточчыне. Працавала ў пачатковых школах у Красным Сяле, Вялікіх Тыневічах і Махнатым.

**— У колькі гадоў Вы пачалі працаваць настаўніцай?**

— У сямнаццаць. Памятаю, прайшоў мусіць месяц маёй працы, як прыехала ў школу візітацыя. Клічуць мяне: *Kto panią zatrudnił!? Przecież pani nie odpowiada sądownie*. Ногі пада мной падкасіліся: *A co ja takiego zrobiłam? — Nie o to chodzi*, — кажуць, — *pani jest niepełnoletnia*.

**— Вы ўсе — першае пасляваеннае пакаленне інтэлігенцыі — рана пачыналі працу і потым усё жыццё яшчэ вучыліся, павышалі свае кваліфікацыі.**

— Ой, Коля, маёй пазнейшай навукі хапіла б на дактарат. Папаездзіла я. Ад тых праездаў хваробы сёння вылазяць.

**— Вы хацелі працаваць у школе, ці так атрымалася?**

— Раскажу табе адну сямейную гісторыю. Мая бабушка мела ад двух мужаў васьмёра дзяцей: сем сыноў і адну дачку — маю маму. Цікава, што бабушка была каталічка з-пад Белавежы і два разы выходзіла замуж за праваслаўнага. Не памятаю, каб у іх з дзедам былі нейкія непаразуменні з-за рэлігіі. У нядзелю дзедка запрагаў каня і яны ехалі ў Нараўку. Спачатку вёз бабушку ў касцёл, затым сам напраўляўся ў царкву. Потым яна да яго прыходзіла, бо ж набажэнства ў касцёле карацейшае, заходзіла ў царкву, дзе ўжо былі разам і пасля разам вярталіся дадому.



Першы здымак

Найменшага сына ў гэтай згоднай шматдзетнай сям'і звалі Павел. Як немцы палілі Заблоччыну і нас вывозілі ў Подваркі, то Павел на фурманцы трымаў мяне, пяцігадовую, на руках і спытаў, кім буду, як вырасту. Не ведаю, адкуль мне гэта прыйшло ў галаву, але я адказала: настаўніцай.

**— Можа таму, што Ваш дзядзька Аляксандр[1] быў настаўнікам?**

— Мусіць не, бо я дзядзькі з таго часу не памятаю. Потым ужо, у першы пасляваенны год, ён мне даў сшытак і аловак, і я нешта там пісала. І вадзіў мяне ў школу, а калі вёў, то трымаў за руку. Мусіць таму, што нам трэба было перабірацца праз узарваны мост.

Гэта, аднак, было пазней, а я табе хачу яшчэ расказаць пра вайну, бо тыя жахі





Бацькі:
Уладзімір і Аляксандра Валкавыцкія

[1] **Аляксандр Валкавыцкі** — беларускі настаўнік. Нарадзіўся ў вёсцы Заблоччыне каля Нараўкі. За царскім часам закончыў Свіслацкую гімназію, пад канец Першай сусветнай вайны, пры немцах — васьмімесячныя беларускія настаўніцкія курсы ў Свіслачы. У міжваеннай Польшчы не мог працаваць у школе. Настаўнічаць зноў пачаў пры саветах, а калі немцы дазволілі адчыніць у 1943 годзе школу ў Нараўцы, стаў яе кіраўніком. Працаваў на той пасадзе і пасля вызвалення. 17.04.1945 года быў расстраляны — як „кмуністычны арганізатар" — атрадам Пятай віленскай брыгады Арміі Краёвай пад камандаваннем маёра Зыгмунта Шындзеляжа „Лупашкі" ў цэнтры Нараўкі.


Вучаніца

помняцца мне да сёння. Мы страцілі дом, гаспадарку, былі бежанцамі. Спачатку жылі ў Подварках пад Заблудавам, потым перабіраліся бліжэй дому, у Юшкаў Груд, Ляўкова. Жылі ў чужых людзей. Нас выратоўвала тое, што папа быў майстравы, мог шмат што зрабіць, ну і бабушка шыла на машыне, а каля яе і мама навучылася, бо змалку дапамагала ў хаце і пры братах. І так мы неяк пратаўкліся, а потым на нейкі час нас надзялілі домам па яўрэях у Нараўцы, ля самой рэчкі. З таго час памятаю, як бабушка вядзе нас пяцёра дзяцей, а па другі бок вуліцы стаіць немец з вялізным сабакам. Той немец нешта гыркнуў, а сабака на нас! Мы ў брамку, зачапіліся, пападалі. Стрыечная сястра была зверху, то сабака зубамі прарваў ёй пальтэчка і аж за скуру ўчапіўся. Я пасля таго псіхічна расхварэлася. Доўга баялася. А іншым разам, то было перад Калядамі, бацька прынёс елку, а не было чым яе ўбраць. Мы збіралі паперкі па нямецкіх цукерках. Выйшла я на вуліцу, убачыла паперку, нагнулася, каб яе падняць, а тут невядома адкуль з'явіўся немец і ботам мне на руку! Ой, як балела! Той боль, а мо лепш сказаць, крыўда, сядзіць ува мне да сёння. Хаця, праўда, было і іншае. Як нас вывозілі з Заблоччыны, то ўзяў мяне немец на рукі — а я малая хароша была, з такімі кручанымі кудзеркамі — і кажа, што ў яго дачка такая ж. Даў мне дзіцячую сумачку, а ў ёй дзве маркі. Але я яго баялася, хацела хутчэй да мамы.

**— Давайце вернемся да дзядзькі Аляксандра. Я калісьці гаварыў пра яго з Вашым малодшым братам Яўгенам[2] і ён сказаў, што пра дзядзьку ўсе ў сям'і расказвалі з пашанай, што меў галаву!**

— Я, бач, такіх расказаў не памятаю. Можа таму, што рана пайшла з хаты, а Генік жыў з бацькамі. Але думаю, што дзядзьку паважалі, бо быў найстарэйшы ў сям'і, а па-другое, паканчаў школы. У той час і мой папа лічыўся вучоным, бо ўмеў чытаць і пісаць. А мама не, бо не хадзіла


Маладая настаўніца

[2] **Яўген Валкавыцкі** — настаўнік, шматадовы дырэктар Пачатковай школы ў Нараўцы.



На экскурсіі ў Варшаве

ў школу — мусіла пільнаваць братоў. Калі ўжо пасля вайны хадзіла на курсы па ліквідацыі непісьменнасці, то ёй усё роўна тая навука не лезла ў галаву. Па жыцці была вельмі спрытная, умела і шыць, і шмат чаго зрабіць і як ніхто ведала лес. А пісаць і чытаць не навучылася.

**— Дзе Вы былі, калі загінуў Ваш дзядзька?**

— У той дзень, памятаю, па Нараўцы ішло нейкае войска, шырока, цэлай вуліцай. Папа адсунуў край фіранкі і мы глядзелі. Адзін з іх убачыў гэта і наставіў



У свабодны час вясковай настаўніцы

на нас ружжо. Папа пусціў фіранку і кажа: *Ленка, сёння ў школу не пойдзеш*. Потым мне сяброўкі расказвалі, што дзядзю вывелі проста з класа...

**— ... не стала Вашага першага настаўніка.**

— Ён пераканаў бацькоў, што трэба мяне паслаць у школу, а гэта ж не так лёгка было, бо жылі бедна, нават не было ў што апрануцца. І, як я сказала, заходзіў па мяне і мы разам у школу ішлі. Але маёй першай настаўніцай і, дарэчы, выхавацелькай да канца падставоўкі была Ядвіга Стульгіс (па мужу Бармута). І яна, у пэўным сэнсе, выбрала мне школу. У сёмым класе параіла напісаць заяву ў педагагічны ліцэй, на спецыяльнасць выхавацелька дзіцячых садкоў. Калі я сказала пра гэта дома, бацькі былі вельмі незадаволеныя. Яны хацелі, каб я вучылася ў беларускім ліцэі ў Гайнаўцы. То цяпер *przedszkolanka* лічыцца такой самай настаўніцай як і ў школе, а тады казалі, выбачай, што толькі дзецям ср...і падцірае. Нічога, паехалі мы тры — Вера Матысяк з Гарадзіска, малодшая сястра настаўніцы Ядзі і я — на экзамен у Беласток. Я першы раз была ў гэтым горадзе, але

не разгубілася, неяк знайшла хроснага бацьку, у якога пераначавала, і школу, і здала экзамен, хаця мама malілася, каб мяне туды не прынялі.

**— Вы вучыліся ў Беластоку?**

— Не, я там толькі ўступны экзамен здавала, а вучылася ў Бельску. Пасля года хацела перабрацца ў Гайнаўку, бо мне абрыдлі нараканні папы, які ўсё не не мог змірыцца з тым, што я буду працаваць у дзіцячым садку. У беларускім ліцэі пагадзіліся мяне прыняць, але з умовай, што мая школа мяне адпусціць. А дырэктарка Педагагічнага ліцэя ў Бельску Анастасія Тропак сказала, што нікуды мяне не пусціць. І папа да яе хадзіў, і гэта не дапамагло. Я вучылася добра, дык відаць таму не хацелі ад мяне пазбаўляцца. Тым не менш, пасля трох гадоў навукі, дырэктарка размеркавала дзяўчат, якія вучыліся горш за мяне, па дзіцячых садках у Бельску, а мяне пасылае ў Рутку, аж за Браньск. Я ад крыўды аблілася слязамі, але мусіць тут мне Бог дапамог, бо бацькі з Руткі напісалі, што просяць прыслаць ім настаўніцу каталічку. Я з гэтым пайшла да



Краснае Сяло - першая праца

дырэктаркі і кажу, што туды не падыходжу па веравызнанні. *А ты хто?* — здзівілася пані Тропак. Яна думала, што *Helena Wołkowycka* мусіць быць каталічкай. Наша размова адбывалася ў прысутнасці павятовага асветнага інспектара Класоўскага: *A może Pani chce być nauczycielką?* Я аж падскочыла ад радасці: *Bardzo!* І так я папала ў Краснае Сяло.

**— У сямнаццаць гадоў.**

— Ніхто мяне ні пра гады не пытаў, ні пра тое, што мне яшчэ да матуры заставаўся



Краснае Сяло - першая праца



Краснае Сяло - першая праца

год вучобы. Бацькі ў Красным Сяле былі задаволены і я таксама, бо разам са мною стала там працаваць Марыся Ахрымюк з Ахрымоў. І мы мелі найлепшага ў свеце дырэктара, Дэмяновіча, а імя, бач, забыла. Ён нас моцна не кантраляваў, быў кампанейскі і наогул добры чалавек. Лёс толькі ў яго трагічны. На вайне загінулі ўсе яго браты. А ён быў хворы, таму і казаў, што не хоча жаніцца, хаця ахвотных дзяўчат было нямала. І памёр, бедны, маладым, але я ўжо тады ў Красным Сяле не працавала.

— **Колькі Вы там гадоў правучылі?**

— Тры, з 1954 па 1957 год. Я той час вельмі добра ўспамінаю, хаця ўмовы жыцця былі цяжкія. Людзі там былі вельмі добрыя, але жылі бедна. Мы з Марысяй здымалі кватэру, гаспадыня якой не заўсёды мела што зварыць. У пост часта елі *каплун*. Ведаеш што гэта?



У настаўніцкім пакоі

— **Размочаны ў вадзе хлеб з цукрам або падсмажанай на алеі цыбуляй.**

— Часам варыла на нас дзве голуба, бо яны трымалі гэтых птушак. О, якое гэта было смакоцце! Можа таму, што нямнога з яго было наедку. Часта быў малочны суп. Бутэрбродаў гаспадыня нам у школу не рабіла. Крамы не было, каб купіць нейкія прадукты. А працы было многа, кожны дзень па сем-восем урокаў. І яшчэ ж трэба было ездзіць раз у месяц у Бельск на кансультацыі, каб здаць матуру. Спачатку ішлі пехатою сем кіламетраў да станцыі Рыгораўцы. Дарога была такая, што чакалі, калі яна замерзне. А вясною ці восенню ў адным месцы даводзілася скідаць боты, бо трэба было ісці па вадзе. Там я мусіць і нажыла рэўматызм. Часта бывала і так, што нам Класоўскі надае кніжак у школьную бібліятэку і мы нясем іх у руках з Рыгораўцаў ажно ў Краснае Сяло. Памятаю таксама, як я ў Бельску купіла коўдру. Несла яе і на плячах, і акручвалася ёю, і за сабой валакла, адзін смех.



Лена і Аляксей, 1958 г.

**— Тым не менш, Вы паспяхова здалі матуру і, разумею, Ваша адукацыя на гэтым не кончылася.**

— Пасля матуры нас траіх, Толіка Шведа са Старога Беразова, Федзю Шпаковіча з Белавежы і мяне накіравалі ў трохгадовую Настаўніцкую семінарыю (*Studium Nauczycielskie*) у Варшаву, на спецыяльнасць „мастацкія і тэхнічныя заняткі" (*plastyka i praca-technika*). Там было добра вучыцца, нават камандзіровачныя нейкія плацілі. А ездзілі мы раз у месяц, да таго мелі заняткі на зімовых канікулах і адзін месяц — на летніх. Адзін толькі выкладчык мне не спадабаўся, Скачыляс, за тое, што здзекаваўся са Шпаковіча: *Fiedzia, a cóż to za imię?* Здавалася б, што ў такім месцы настаўнікі павінны быць на ўзроўні.

**— Чаму Вы пакінулі Краснае Сяло і куды трапілі?**

— Я хацела быць бліжэй дому. Таму паехала ў Павятовы асветны інспектарат у Гайнаўцы з пытаннем, ці няма ў іх свабодных месцаў. Было адно ў Вялікіх Тынявічах. Зноў мне ў жыцці пашанцавала, бо пазнала я там майго будучага мужа. Алёша[3] ў тым самым годзе пераехаў туды з Локніцы. Мы здымалі кватэры па-суседску, у двух братоў Дудзічаў: Васіля і Тамаша, неяк хутка спадабаліся адно аднаму, палюбіліся. Мой Алёша быў вельмі добрым, сумленным, абавязковым чалавекам. Памятаю, як я скалечыла нагу, то ён яе і перавязваў і шмараваў

Лена і Аляксей з дачушкай Алінкай і мамамі: Вольгай Сельвясюк і Аляксандрай Валкавыцкай



[3] Аляксей Сельвясюк (1935-2005) — шматгадовы настаўнік геаграфіі ў Гайнаўскім беларускім ліцэі.



З дзяцьмі Алінкай і Валюсем, 1965 г.

маззю. Апекаваўся мною. Ён быў старэйшы за мяне на два гады і настойваў на жаніцьбу, а я казала, што няма нам чаго спяшацца. У той час ён яшчэ давучваўся ажно ў Гданьску і відаць, каб быць бліжэй адно аднаго, на другі год, у лістападзе 1958 года, мы пажаніліся. Я яшчэ,



Аляксей з сынком

як замужняя, правучыла восем месяцаў у Тыневічах і пераехала сюды, у Махнатае, на Алёшаву бацькаўшчыну. У 1960 годзе нарадзілася нам Алінка.

**— Вы сталі працаваць у Пачатковай школе ў Махнатым, а Ваш муж у Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы?**

— Не, спачатку мы разам працавалі. Алёша стаў даязджаць у Гайнаўку два гады пазней.

**— А чаму Вы засталіся жыць на вёсцы, чаму не пераехалі ў горад?**

— Калі Алёша пачаў працаваць у ліцэі, яму давалі кватэру ў блёку. І ён хацеў туды пераехаць. У нас жа тут вельмі цяжкія ўмовы былі, хатка яшчэ меншая, чым цяпер, адзін пакой і кухня. Жылі разам з Алёшынай мамай і малодшым братам Ванем, які вучыўся тады ў педагагічным ліцэі. Атрымалася такая сітуацыя, што Алёша хоча пераехаць, а цешча супраць, бо тут і невялікая гаспадарка, і свая карова. Алінцы было якіх паўтара годзіка, я падумала сабе, што ў горадзе трэба



Сям'я ў 1970-ыя

будзе яе аддаць ці то ў яслі, ці потым у садок, а тут мае сваю бабульку, якая — хачу гэта падкрэсліць — вельмі добра займалася дзецьмі, спачатку нашымі, а потым і Алінчынымі. Мы маглі па-рознаму жыць, як то ў сям'і, але да дзяцей яна была цудоўная апякунка. Я сказала Алёшу, што нікуды не паеду. І не шкадую, бо люблю вёску, прыроду, люблю сваіх суседзяў, добра мне тут.

— **Тут, аднак, зусім іншая прырода, чым у Вашай Заблоччыне, якая прымыкае да Лядскай пушчы. Няма лесу...**

— ...няма рэчкі. Так, сапраўды спачатку мне гэтага не хапала, але як Алінка стала падрастаць, зрабілася такая шустрая, што яе не ўтрымаць на панадворку, то я была рада, што няма блізка ні рэчкі, ні лесу. Я запамятала як у Заблоччыне пільнавала брата, а ён на дзесяць гадоў за мяне маладзейшы. І аднойчы ён кудысьці знік. Я папашукала яго, папаплакала, спалохалася, што нешта з ім здарылася, а тым часам ён схаваўся ў нейкую яму і потым спакойна адтуль вылез; нават не ведаю, ці ён гэта памятае. У Махнатым я цаніла тое, што дзеці былі бяспечныя. Праўда, Валюсь не быў такі непаседлівы як Алінка, з ім было спакайней.

— **А як было ў школе?**

— Па-рознаму. Спачатку калегі мяне не вельмі добра прынялі, бо думалі, што я дадатковыя гадзіны буду ім забіраць,

Перад выхадам на пенсію





З дзецьмі: Алінай і Валянцінам

а гэта ж грошы. Пакуль не прыйшоў Алёша былі тут тры настаўнікі. А я — стала працаваць год пазней за яго — была ўжо пятай. Хутка, аднак, аказалася, што ўсім работы хапае. Дзяцей было многа. Быў час, што ў Старым Корніне не было сямікласнай школы, то і адтуль да нас хадзілі. Дык пасля яшчэ прыслалі нам дзве настаўніцы. Найгоршае, што было, гэта спалучаныя класы. У такой падвойнай узроставай групе цяжка працаваць.

— **Якім прадметам Вы вучылі?**

— Розным. Была і *praca-technika* і *plastyka*, і іншыя, але маім улюбёным прадметам была біялогія. Я яе мела ў малым пальцы і матуру па біялогіі здала найлепш у школе. Дырэктарка Тропак хацела мяне на студыі пасляць у Кракаў, але я на гэта не рашылася. Шкадавала бацькоў, якім не пад сілу было б мяне ўтрымліваць, хацела як найхутчэй зарабляць на сябе.

— **Не пайшлі адразу пасля ліцэя ва ўніверсітэт, дык потым прыйшлося сумяшчаць працу і навуку.**

— Так. Я яшчэ з Махнатага два гады ездзіла ў Люблін, у Вышэйшую педагагічную школу. Быў такі начны цягнік з Беластока. Алёша мяне вазіў на яго ў Леўкі.

— **Чым вазіў? Наколькі я ведаю, у Вас ніколі не было машыны.**

— Цягнікам. Ездзіў са мною са Старога Беразова ў Леўкі, сядзеў разам у пачакальні і, калі прыходзіў мой цягнік, саджаў у вагон. Я ж казала, што ён быў вельмі чулы, увесь час аба мне клапаціўся. Нам так разам добра жылося...

Глянь, як складваецца, я нарадзілася ў 1937 годзе, пачала працаваць у сямнаццаць год, прапрацавала ў школе трыццаць сем, а з Алёшам пражылі сорак сем... шкадую, што так коратка.

**Гутарыў Мікола ВАЎРАНЮК**

# «Chronimy nasze toponimy»

**Fundacja EDM powstała, by pracować na rzecz środowiska lokalnego. Prowadzimy Cyfrowe Archiwum Tradycji Lokalnej, którego zadaniem jest gromadzenie, archiwizowanie i prezentowanie zebranych materiałów dotyczących historii i tradycji gminy Orla. Nasze propozycje kierujemy do wszystkich grup wiekowych. Angażujemy dzieci i młodzież, które poprzez wspólne działania uczą się wrażliwości na lokalne sprawy. Natomiast ogromną wiedzę i doświadczenie życiowe czerpiemy od ludzi starszych, którzy czasami mogą czuć się niedocenieni i zapomniani.**

**„Chronimy nasze toponimy" to jeden z projektów realizowany przez naszą fundację. Projekt jest współfinansowany ze środków Województwa Podlaskiego. W ubiegłym roku opracowaliśmy toponimy wsi Reduty, Szernie, Topczykały i Spiczki. W bieżącym roku kontynuujemy prace nad toponimami miejscowości gminy Orla. Tym razem uchronimy od zapomnienia nazwy toponimiczne wsi Paszkowszczyzna, Koszki, Gredele i Malinniki.**



Elżbieta CIULKIEWICZ

Warunkiem zachowania własnej kultury i jej trwania jest przekaz dziedzictwa kulturowego. Poczucie łączności z poprzednimi pokoleniami, oparcie w lokalnej tradycji daje efekty w postaci silnej, niepodatnej na wpływy chwilowych mód czy zalewu globalnej, masowej kultury tożsamości kulturowej. Kultura może być bowiem potencjalnie istotnym czynnikiem dynamizującym rozwój społeczno-gospodarczy. Płaszczyznę niematerialną tożsamości kulturowej tworzą tradycje i zwyczaje, religia, pamięć o wydarzeniach historycznych oraz lokalne nazewnictwo miejsc, czyli toponimy.

Toponimy w życiu codziennym wsi spełniają kilka funkcji. Jedną z nich jest lokalizacja geograficzna opisywanego wydarzenia, określenie, że właśnie w danym miejscu, a nie gdzie indziej dzieje się to, o czym jest mowa. Odchodzą pokolenia, a wraz z nimi często odchodzą toponimy.

Toponimy to nazwy pól, lasów, krzyży, skał, strumyków, a nawet stojących samotnie na polu drzew. Często nieoznaczone na mapach i niezarejestrowane w dokumentach są używane przez społeczność lokalną niewielkiego terenu składającego się z jednej lub kilku wsi. W przeszłości służyły ludziom do orientacji w najbliższej przestrzeni. Dzięki nim ludzie znali bardzo szczegółowo swoją okolicę, każde pole, sad czy krzew.

Toponimy, choć pozornie nazywają tylko poszczególne miejsca, to współcześnie stanowią źródło wielu informacji o środowisku przyrodniczym danego obszaru. Dzięki nim można dowiedzieć się o ukształtowaniu terenu, o tym, co dawniej go porastało, czy jakie budowle tam stały. Na przykład nazwa *Biluha* pochodzi — jak wyjaśniają starsi ludzie — od miejsca, w którym wykopywano glinę. Natomiast nazwa pola *Za Sokorciom* oznacza ziemię, którą porastają topole. Oprócz tego te nazwy są odbiciem historii danej okolicy i stanowią sposób myślenia oraz wyobrażenia o świecie osób mieszkających na niej od wielu lat. Dodatkowo wiąże się z nimi wiele historii i legend. Oprócz fantazyjnych i nierealnych zdarzeń niektóre zawierają w sobie cenną prawdę.

Toponimy są przekazywane z pokolenia na pokolenie, lecz z roku na rok pamięć o nich zaczyna zanikać. Młodzi ludzie nie używają dawnych nazw ze względu na przemijającą gwarę, w jakiej są używane oraz postęp technologiczny, który umożliwia łatwe i szybsze orientowanie się w przestrzeni. Starsze osoby, dla których toponimy są nieodłączne w ich życiu, umierają, a wraz z nimi odchodzi cenne dziedzictwo kulturowe.

Każda wieś ma swoje własne specyficzne, występujące tylko w jej obrębie miejsca oraz budynki. W żadnej innej miejscowości nie spotka się tych samych nazw, dlatego są one tak ważne i mają szczególną wartość. Ogromnie istotne jest ich odpowiednie zapisywanie w gwarze, tak aby już na zawsze były zapamiętane i utrwalone w poprawnej formie. Liczy się każda litera i akcent. Najlepiej jest zapytać o daną nazwę wiele osób z danej wsi, dzięki czemu zapis będzie bardziej precyzyjny i prawidłowy. Również znaczącą rolę w dokumentowaniu toponimów odgrywa spisywanie ich etymologii, czyli pochodzenia, przekazów z nimi związanych, zaznaczanie ich na mapach i robienie zdjęć.

Wyróżniamy toponimy powierzchniowe, punktowe i liniowe. Toponimy powierzchniowe — obszary o dużej powierzchni. Są to najczęściej pola, łąki i lasy. Toponimy punktowe — czyli miejsca o małej powierzchni. Zaliczają się do nich drzewa, krzyże, kamienie. Toponimy liniowe — są to najczęściej drogi i uliczki.

Jak wygląda realizacja projektu w praktyce?

Zaczynamy od spotkania organizacyjnego z chętną młodzieżą, podczas którego omawiamy cele projektu oraz zadania, jakie czekają nas w najbliższych miesiącach. Wspólnie opracowujemy harmonogram przyszłych działań oraz ustalamy terminarz spotkań i wydarzeń. Również na tym spotkaniu szkolimy młodzież w zakresie obsługi kamer oraz dyktafonów.

Następnie pozyskujemy mapy topograficzne miejscowości, w których będziemy pracować w skali 1:10 000. Mapy te stanowią podstawę realizacji naszych działań, ponieważ to właśnie na nich zaznaczamy wyniki przeprowadzanych badań terenowych.



Fragment mapy w skali 1:10000 wykorzystanej w badaniach terenie.

Prace badawcze na terenie jednej wsi trwają około miesiąca. W każdej wsi dokonywaliśmy zapisu audio toponimów, nanosiliśmy różnymi kolorami na mapy ćwiczeniowe zasięg ich występowania, wykonywaliśmy dokumentację fotograficzną toponimów liniowych i punktowych oraz sporządzaliśmy wstępny opis zebranych materiałów.





Nanoszenie na mapy ćwiczeniowe toponimów wsi.



Sprawdzanie, potwierdzanie zasięgu występowania toponimów, konsultacje naszych opracowań z mieszkańcami wsi.



Następnie zebrany w terenie surowy materiał zostaje dokładnie przesłuchany oraz opracowany w specjalistycznych programach do plików audio. Otrzymujemy około 10 plików audio z każdej wsi z wymową poszczególnych toponimów.

Następnie wspólnie dokonujemy opisu zebranych plików, uwzględniając m.in. dane osoby udzielającej informacji, nazwę miejscowości i datę zapisu. Tak prawidłowo stworzony materiał zostaje zarchiwizowany w Cyfrowym Archiwum Tradycji Lokalnej Fundacji EDM i udostępniony na otwartej licencji.

Zebrane nagrania odsłuchujemy i zapisujemy znaczenia toponimów (nie wszystkie mają swoją genezę).



**Uczniowie biorący udział w projekcie opracowują na komputerach pliki dźwiękowe.**

Nazwy toponimiczne i ich znaczenie

| Nr | Toponim | Znaczenie |
|---|---|---|
| 1. | Hlinki | Kopalnia gliny w pobliżu mostu jadąc z Orli po prawej stronie. |
| 2. | Pańskie | Grunta dworu — ciągnęły się od rzeki Orlanki do granicy wsi Toporki, na początku XX w. sprzedane gospodarzom. |
| 3. | Hryciuwszczyna | Łąka i pole Pańskie. |
| 4. | Nowiny | Miejsce, gdzie stał dwór — naprzeciwko wsi Rutka. |
| 5. | Za Kłuniami | Ogrody i łąki ciągnące się do rzeki Orlanki. |
| 6. | Oziero | Po lewej stronie od mostu do Redut, dawniej młyn wodny, potem wspólnota wiejska, obecnie rozdzielona pomiędzy gospodarzy. |

| | | |
|---|---|---|
| **7.** | Czetwertyny | Dawniej ćwierć włóki — w stronę wsi Toporki; trójkąt między drogą Reduty i Dubicze Cerkiewne. |
| **8.** | Za Mostom | Obecnie za rzeką. |
| **9.** | W Rowach | Pole, gdzie jest błoto, bagna. |
| **10.** | Koło Mohiłok | Część pola należąca do Redut. |
| **11.** | Puod Dubom | W pobliżu uroczyska Zielony Dub. |
| **12.** | Odnoha | Las należący do mieszkańców Krywiatycz. |
| **13.** | Buor | Obecnie las. |
| **14.** | Kupalny Łuh | |
| **15.** | Łużok | Las między Koszelami a Redutami. |
| **16.** | Dolina | Pastwisko oddzielające Lipinki od Kruszyny. |
| **17.** | Kawetczyna | Droga z Redut na Toporki. |
| **18.** | Krynicia | Naprzeciwko wsi Reduty — łąka i źródełko. |
| **19.** | Pod Horeju | Była tu żwirownia. |
| **20.** | Za Horeju | Pole przy drodze z Redut do Toporek, leżące przy śmietnisku. |
| **21.** | Zelonka | Wyjeżdżając z Redut, po lewej stronie. |
| **22.** | 6 Zahony | Pola od strony rzeki koło Zeluonki. |
| **23.** | 5 Zahony | Nie ma takich. |
| **24.** | 4 Zahony | Za rzeką aż do kolonii, puste łąki. |
| **25.** | 3 Zahony | Ciągnące się od drogi do Redut, do rzeki Orlanki naprzeciwko cmentarza. |
| **26.** | Pod Wulszynoju | Łąki koło rzeki. |
| **27.** | Żorstwa | Żwirowa droga do Dubicz. |
| **28.** | Krawciuwszczyna | Po prawej stronie rzeki Orlanki — pola i łąki. |
| **29.** | Naddatki | Koło Rutki. |
| **30.** | Miśkie | W pobliżu gruntów Orla. |
| **31.** | Popławy | Wspólnota wiejska. |
| **32.** | Pod Bołotom | Bagno zarośnięte trawą w stronę Orli. |
| **33.** | Bołoto | Teren bagnisty porośnięty trawami. |
| **34.** | Dworysko | Pole, na którym kiedyś był dwór. |
| **35.** | Podleszczyny | Za dawną oborą, pod leszczyną. |
| **36.** | Czortowy Worota | Obecnie cmentarz niemiecki z I wojny światowej. |
| **37.** | Żereło | Łąka i ogrody — ciek wodny. |

| | | |
|---|---|---|
| **38.** | Krynoczka; Krynyczyna | Koniec Kryszynów — pola i krynica z zimną wodą. |
| **39.** | Seredni Popław | Błota koło Rutki. |
| **40.** | Serwituty — Serweta | Obok Żarki — istniały do lat 80. XX w., potem podzielona pomiędzy gospodarzy. |
| **41.** | Hłuboczok, Zahłuboczkom | Wspólne pastwisko, porośnięte krzakami olszyny, obecnie podzielone pomiędzy gospodarzy wsi Reduty. |
| **42.** | Zakowe Bołoto | Bagno, stojło dla bydła, obecnie zagospodarowane. |
| **43.** | Ozerysko | Pastwisko, gdzie kiedyś walczyli partyzanci. |
| **44.** | Hrudy | Obok Repiska. |
| **45.** | Kruszyny | Porośnięte krzakami olszyny, zagospodarowane na pastwisko. |
| **46.** | Steńka Ruszczyna | |
| **47.** | Szmerech | Serwituty wsi Koszele porośnięte leszczyną, dzikimi malinami, porzeczkami i jeżynami, obecnie podzielone pomiędzy gospodarzy wsi Koszele i Reduty. |
| **48.** | Hrudok | Od Orli lewa część. |
| **49.** | Seło | Środkowa część wioski. |
| **50.** | Wyhon | Wspólnota, pastwisko. |
| **51.** | Lipinki | Graniczy z topczykalskim lasem, serwituty wsi Topczykały. |
| **52.** | Repiska | Graniczą z wielkim lasem szerniowskim. |
| **53.** | Żumierka | Jadąc do Toporek, po lewej stronie. |
| **54.** | Hlonki | Pole z gliną. |

Zebrany materiał audio zapisujemy w tutejszej gwarze, a następnie pod okiem specjalisty zapisujemy go w transkrypcji. W ten sposób powstaje pełna lista zgromadzonych przez nas toponimów już w wersji gwarowej.

Język, jakim rozmawia się na Białostocczyźnie, jest zbiorem gwar wschodniosłowiańskich. Obszar ich występowania ciągnie się wzdłuż granicy polsko-białoruskiej od południa województwa podlaskiego, aż po wsie w województwie lubelskim. Na północy nazywa się ten język „prostym", na Białostocczyźnie „naszym, swoim", a na południu językiem „chachłackim". Zawiera on liczne wpływy języka polskiego, białoruskiego i ukraińskiego.

Transkrypcję toponimów sporządzamy nie cyrylicą, tak jak są zapisywane te języki. Podstawą przyjętego przez nas zapisu jest alfabet łaciński, uzupełniony dodatkowymi literami. Jest to uproszczona wersja transkrypcji stosowanej w dialektologii polskiej. Jako główne kryterium przyjęliśmy przejrzystość zapisu, który ma być czytelny również dla niefachowca, starając się jednocześnie możliwie najdokładniej oddać wszystkie dźwięki występujące w gwarach białoruskich i ukraińskich. Ponieważ w językach wschodniosłowiańskich występuje

akcent ruchomy, dlatego też przy zapisywaniu słów zaznaczamy miejsce akcentu. Zarówno w gwarach białoruskich, jak i ukraińskich występuje archaiczne zjawisko — dyftongu. Dyftong, inaczej dwugłoska jest to pojedyncza samogłoska (na ogół długa) o zmiennym przebiegu artykulacji, co sprawia, że ucho ludzkie słyszy dwa dźwięki, mimo że są one zespolone niejako w jeden i mają właściwości pojedynczej samogłoski. Dyftongi oznaczane są łuczkami nad samogłoskami (u̯ i͡e y͡e u͡o). Niezgłoskotwórcze u oznacza się łuczkiem pod literą u (u̯).

Fonetyczny zapis toponimów wsi Koszki — Ku͡oszki

| LP. | Toponim | Zapis, transkrypcja (u̯ i͡e y͡e u͡o) |
|---|---|---|
| 1. | Parciuki | Parciuk'i |
| 2. | Seło | Seł'o |
| 3. | Za Horodom, Pod Rykoju | Za Hor'odom, Pod Ryk'oju |
| 4. | Korotki Łonki | Kor'otki Ł'onki |
| 5. | Hromadnie | Hrom'adnie |
| 6. | Kamenyci | Kamen'yci |
| 7. | Douhi Łonki | D'ou̯hi Ł'onki |
| 8. | Topczykalskie, za Hostyńciom | Topczyk'alski͡e, za Host'yńciom |
| 9. | Parciuśkoje, Morhi | Parciuśk'oje, Morh'i |
| 10. | Hłyboki Ruow | Hłyb'oki Ru͡ow |
| 11. | Naddatki | Nadd'atki |
| 12. | Szczotyna | Szczotyn'a |
| 13. | Za Wulszynoju | Za Wulsz'ynoju |
| 14. | Wulszyna | Wulsz'yna |
| 15. | Za Sełom, Koło Mohiłok | Za Seł'om, K'oło M'ohiłok |
| 16. | Mohiłki | M'ohiłki |
| 17. | Seliska | Sel'iska |
| 18. | Newiszczyno | New'i͡eszczyno |
| 19. | Za Newiszczynom | Za New'i͡eszczynom |
| 20. | Kut | Kut |
| 21. | Newieszczynko | New'i͡eszczynko |
| 22. | Pustki | P'ustki |
| 23. | Za Osyńskoj | Za Os'yńskoj |

| 24. | Stare | St’are |
|---|---|---|
| 25. | Krynica | Kryn’ica |
| 26. | Obłohi | Obłoh’i |
| 27. | Za Starym | Za Star’ym |
| 28. | Za Nowoj Dorożkoj | Za N’owoj Dor’ożkoj |
| 29. | Osyńska Doroha | Os’yńska Dor’oha |
| 30. | Stienka 1 | St’i͡enka 1 |
| 31. | Stienka 2 | St’i͡enka 2 |
| 32. | Nowa Dorożka | N’owa Dor’ożka |

Kolejnym etapem naszych prac jest opracowanie map toponimów i ich druk.

Na podstawie wykonanych wcześniej przez nas map ćwiczeniowych, a także zapisów nazw toponimów w transkrypcji, zlecamy specjalistom opracowanie map w programie komputerowym i ich druk.







Na podstawie zebranych informacji w terenie i dokumentacji fotograficznej opracowujemy tablice informacyjne formatu A1, na których umieszczamy zdjęcia toponimów oraz ich opis. Stworzone wcześniej mapki miejscowości także umieściliśmy na tablicach. Opracowane tablice drukujemy na polipropylenie.



Na zakończenie naszej pracy organizujemy spotkania podsumowujące projekt. Przed zgromadzonymi słuchaczami, często czynnymi uczestnikami projektu prezentujemy wyniki naszych prac. Pokazujemy mapy, fragmenty zapisów audio oraz stworzone przez nas tablice z fotografiami toponimów. Udzielamy przybyłym gościom odpowiedzi na nurtujące ich pytania.

Spotkania takie utwierdzają nas, że robimy coś fajnego, coś ciekawego, coś, co być może w przyszłości przyda się innym, a na pewno dzięki nam nie zaginie.

Wszystkie mapy i tablice pozostają w budynku Szkoły Podstawowej w Orli, gdzie przez dłuższy czas można je oglądać i dzielić się z nami spostrzeżeniami i uwagami.

**Autorzy projektu „Chronimy nasze toponimy”**
**Elżbieta Ciulkiewicz i Dariusz Horodecki — Fundacja EDM.**



Prezentacja wypracowanych przez nas materiałów roboczychi wydrukowanych map.



Projekt prezentują jego uczestnicy.

# ! ПРАВЯРАЕМ ВЕДЫ НАШЫХ ВУЧНЯЎ



Яанна МАРКО

______________________ / 51

**ТЭСТ**

**1. Устаў падоўжаныя зычныя — н, з, с, ц, ж, ч, дз, л.** **/ 14**

каме____е збо____а Ната____я жы____ё адзе____е кало____е
вясе____е стаго____е нараджэ____е бага____е но____у ку____я
тэлебача____е сме____е

**2. Падбяры словы з адпаведнымі гукамі д, дз, т, ц.** **/ 10**

год — ________________ горад — у ________________
плот — ________________ брат — ________________
рот — ________________ мост — ________________
сад — ________________ завод — на ________________
білет — ________________ кут — у ________________

**3. Устаў, дзе трэба апостраф.** **/ 11**

сям__я есц__і пад__ехаць пяр__о з__яўляецца
сузор__е м__яса п__еса надвор__е галав__а б__е

**4. Устаў звонкія або глухія зычныя.** **/ 16**

<u>б-п</u> голу__, су__, ду__, ры__ка
<u>д-т</u> гора__, заво__, пло__, шма__ка
<u>г-х</u> піро__, гаро__, бера__, сто__
<u>ж-ш</u> даро__ка, мы__ка, дожд__, ко__

______________________ / 22

**ТЭСТ**

1. **Галосныя і зычныя.** / 10

а в л е д ы ч с ф о г з у х б я ў й э ё

галосныя ________________________________________

зычныя ________________________________________

2. **Падзялі словы на склады.** / 8

мароз — ________________________

зубр — ________________________

люты — ________________________

панядзелак — ________________________

сёння — ________________________

сон — ________________________

тоўсты — ________________________

бульбачка — ________________________

3. **Гукі і літары.** / 4

| | літары | гукі |
|---|---|---|
| мама | ____________ | ____________ |
| заяц | ____________ | ____________ |
| вавёрка | ____________ | ____________ |
| конь | ____________ | ____________ |

________________________ **/ 57**

**ТЭСТ**

1. **Знайдзі назоўнікі.** **/ 7**

   Вясенні дзень застаў зайца ў лесе.

   З самага ранку сядзеў зайчык ля дрэва і слухаў птушак.

2. **Вызнач род назоўнікаў.** **/ 16**

   мужчынскі:

   жаночы:

   ніякі:

   конь / поле / сяброўка / парта / казка / дзіця / бацька / настаўнік / дрэва / сонца / бабуля / парк / вавёрка / малако / брат / хлопец

3. **Вызнач лік назоўнікаў.** **/ 16**

   адзіночны:

   множны:

   зоркі / сястра / Оля / лісты / вецер / прырода / кветкі / лес / школа / кніжкі / дрэвы / трава / ягады / певень / варона / сябры

4. **Агульныя і ўласныя назоўнікі.** **/10**

   агульныя уласныя

   Беларусь / краіна / дождж / Беласток / вучань / Аня / кніжка / сабака / Чапа / Мінск

**5. Хто ці што.** **/ 8**

ХТО ШТО

______________________________

______________________________

______________________________

______________________________

______________________________

______________________________

хата / дзяўчынка / снег / Варшава / машына / Зося / школа / Мінск

________________________ **/ 19**

**ТЭСТ**

**1. Падкрэслі дзеясловы. / 6**

Мама сядзела ў вялікім пакоі і чытала цікавую кніжку. На дварэ церушыў цёплы, веснавы дождж. Кніжка расказвала пра афрыканскага слана, які драмаў пад дрэвам. Раптам слон убачыў маленькую мышку, якая ўскочыла на яго.

У даўнія часы на беразе сіняга мора стаяў блакітны казачны горад. Жылі ў ім шчаслівыя людзі. Да іх выбраўся злы чараўнік, які ляцеў ноччу, калі добрыя людзі спяць.

**2. Спалучы дзеясловы з назоўнікамі. / 6**

сонейка __________ настаўнік ______________ птушкі ________________

лес ________________ сняжынкі ________________ трава ________________

прыгрэла, шуміць, прыляцелі, вучыць, падаюць, зазелянела

**3. Утвары дзеяслоў ад назоўніка. / 6**

малюнак — ______________________ будынак — ____________________

сад — _________________________ спеў — ______________________

**4. Запішы часціцу *не* з дзеясловамі. / 1**

1. Высокі бор не шумеў / нешумеў.
2. Я не рашыў / нерашыў задачы.

